Народная Воля
22 МАЯ 2004 г.

ВІНШУЕМ!

## Аляксандр ЛУКАШУК:

# «У юбілейны дзень Беларуская служба Радыё Свабода атрымала віншаванне з Кангрэса ЗША...»

*Свае 50-я ўгодкі Беларуская Свабода адзначыла выпускам кнігі «Быкаў на Свабодзе». Яе прэзентацыя адбылася ў Мінску ў сталічным Доме літаратараў, куды спецыяльна з Прагі прыляцеў дырэктар Беларускай службы Радыё Свабода **Аляксандр ЛУКАШУК**. Нам удалося задаць яму некалькі пытанняў.*



**— Аляксандр, ці захавала Свабода тое, што было закладзена на самым пачатку?**

— На самым пачатку радыё называлася "Вызваленьне" - мелася на ўвазе вызваленне паняволеных народаў з-пад камуністычнага прыгнёту Масквы.

Першая перадача працягвалася 15 хвілін, яе адкрываў гімн "Пагоня" і дыктар гаварыў: "Тут радыё "Вызваленьне". Вы слухаеце голас сваіх суродзічаў-беларусаў з вольнага свету".

Рэдакцыю фармавала Рада БНР, і тэмы беларускай незалежнасці і нацыянальнага адраджэння разам з перадачай праўдзівай інфармацыі пра падзеі ў Беларусі і свеце былі галоўнымі ў праграме. Гэтыя тэмы, на жаль, працягваюць заставацца актуальнымі і праз паўстагоддзя і ў значнай ступені вызначаюць змест нашай праграмы. Дарэчы, першы кіраўнік рэдакцыі Вінцэнт Жук-Грышкевіч пазней быў абраны старшынёй Рады БНР.

Ну, і яшчэ адзін нязменны чыннік — як і 50 год таму, мы не маем рэтрансляцыі ўнутры краіны. Беларусь — адзіная дзяржава ў Еўропе, куды Свабода вяшчае як за часам халоднай вайны, з-за мяжы, пераважна на кароткіх хвалях.

**— Ці робіце вы даследаванні наконт узроўню папулярнасці Радыё Свабода на Беларусі і ў свеце?**

**Як выглядае сацыялагічны партрэт вашага слухача?**

— Галоўная рыса нашага слухача — ён хоча мець незалежную інфармацыю, любіць беларускую мову. Гэта настойлівы чалавек — знаходзіць час і мае цярпенне настройваць свой стары кароткахвалевы прымач на нашы зменлівыя частоты.

Даследаванне аўдыторыі амерыканскай радыёстанцыі ў закрытым грамадстве мае свае асаблівасці. Калі звоняць у дзверы і пытаюцца, ці слухаеце вы Свабоду ці "Голас Амерыкі", адказы розняцца.

Розныя даследчыкі даюць занадта розныя лічбы. Можна больш-менш дакладна гаварыць пра характарыстыкі аўдыторыі, тэндэнцыі і суадносіны з аўдыторыяй іншых падобных СМІ. Сярод слухачоў пераважаюць мужчыны, асноўная ўзроставая група — 30—50 гадоў, адукацыя сярэдняя і вышэйшая, на захадзе слухачоў больш, чым ва ўсходніх абласцях.

**— Сёлета Радыё Свабода перастала вяшчаць на краіны Прыбалтыкі і шэраг краін Цэнтральнай Еўропы. Вядома, што Кангрэс ЗША, які фінансуе Свабоду, больш увагі надае Блізкаму Усходу, ісламскаму і арабскаму свету. Ці не пагражаюць скарачэнні беларускай службе?**

— На дзень юбілею Беларуская служба атрымала віншаванне Кангрэса ЗША. Беларуская служба Свабоды — адзіная з усіх рэдакцый нашага радыё, якая атрымала такое прызнанне. Хацелася б спадзявацца, што цяперашні аб'ём нашай праграмы застанецца, хаця сітуацыя няпростая. Змены ў прыярытэтах замежнага амерыканскага вяшчання адбываюцца даволі значныя, рэсурсы скіроўваюцца на Блізкі Усход, краіны арабскага і ісламскага свету.

Радыё перастала вяшчаць на краіны Еўропы, якія ўступілі ў Еўрасаюз, бо яны наўрад ці ўжо маюць патрэбу ў інфармацыйнай дапамозе з-за мяжы. Ці мае такую патрэбу Беларусь — чытачы "Народнай волі" выдатна ведаюць самі. Краіна займае 182-е месца сярод 191 краін свету паводле крытэрыя свабоды слова.

**— Знаходзяцца людзі, асабліва з катэгорыі служкаў рэжыму, якія папракаюць ваша радыё у неаб'ектыўнасці. Маўляў, існуяце за грошы амерыканскіх падаткаплацельшчыкаў, вяшчаеце з Прагі... Ці ўплываюць гэтыя акалічнасці на колькасць і якасць вашай інфармацыі?**

— Так, уплываюць. Гэтыя акалічнасці дазваляюць перадаваць у эфір аб'ектыўную і дакладную інфармацыю і рабіць якасныя праграмы.

**— Аляксандр, а як бы Вы маглі ацаніць прафесійны ўзровень вашых журналістаў? Ці цяжка трапіць да вас на працу?**

— Узровень працы нашых журналістаў, верагодна, больш карэктна ацэньваць не мне, а слухачам і калегам. Можна даволі дакладна вызначыць, як слухачы ацэньваюць якасць праграмы ў фокус-групах, калі некалькі чалавек спачатку ўважліва слухаюць, а потым ананімна аналізуюць праграму. Гэтыя даследаванні сведчаць пра надзвычай спрыяльную ацэнку, якую сталыя слухачы даюць праграме.

Пра гэта сведчыць і фантастычная пошта, якую мы атрымалі на конкурс "Мая свабода". Калі б "Народная воля" мела магчымасць, можна было б апублікаваць выказванні слухачоў пра наша радыё — гэта вельмі шчырае і ўражлівае прызнанне ў любові. Я, прызнаюся, неяк не чакаў, што нашы перадачы так шмат значаць у прыватным жыцці людзей розных узростаў, прафесій, поглядаў. Святар з Гродзенскай вобласці напісаў: *"Калі я слухаю вышы перадачы, мне здаецца, гэта Бог прамаўляе праз беларускую праграму да беларусаў"*. Адна слухачка прызналася, што выбрала імёны для сваіх дзяцей дзякуючы перадачы Свабоды.

Як і ў любой прафесіі, важнае прызнанне калег-прафесіяналаў. Скажу толькі, матэрыялы нашага эфіру выкарыстоўваліся падчас слуханняў у Кангрэсе ЗША, у гэтым 50-м юбілейным годзе на нас спасыламіся, цытавалі вядучыя выданні Вялікабрытаніі, Нямеччыны, Чэхіі, Расіі.

**— Тым не менш сярод некаторых журналістаў існуе меркаванне, што Беларуская служба Свабоды саступае расійскай па якасці эфіру. У апошняй больш прамых уключэнняў, выступаў вядомых публіцыстаў... Ці згодны Вы з гэтай думкай?**

— Я назаву толькі адну асаблівасць — ні ў адной краіне, куды вяшчае Радыё Свабода, няма такога, як у Беларусі, катастрафічнага становішча з роднай мовай. А радыё — гэта перадусім мова, жывая, гаваркая, багатая, лёгкая, гнуткая, моцная, звонкая, сакавітая, якая здольная праз слова, інтанацыю, вымаўленне перадаць свет ва ўсёй паўнаце і прыгажосці. Гэта вельмі балючая праблема, якая робіць прафесійную падрыхтоўку эфіру беларускай службы Свабоды непараўнальнай з працай калег.

**— Ці ёсць яшчэ нейкія асаблівасці працы журналістаў Радыё Свабода ў Беларусі ў параўнанні з працай іх калег у іншых краінах?**

— Я адкажу некаторымі паказчыкамі даследавання, якое праводзілася ў канцы мінулага года. Сёння Беларуская служба мае на трацiну больш слухачоў у Беларусі, чым рускамоўныя перадачы "Бі-Бі-Сі", "Голасу Амерыкі" і "Нямецкай хвалі" разам узятых.

Сярод трох дзесяткаў службаў Радыё Свабода ў Празе Беларуская служба сёння лічыцца адной з лепшых, а па шмат якіх прафесійных параметрах вядучай і нават унікальнай. (Напрыклад, у нас найбольшы аб'ём эфіру ў разліку на аднаго супрацоўніка, мы адзіныя, хто робіць штодзённыя гадавыя праекты кшталту "Слоўніка стагоддзя", "Верша на Свабоду" і іншыя.) Мы ў рэдакцыі, аднак, рэдка бываем цалкам задаволеныя сваёй праграмай, пастаянна спрачаемся, вучымся, спрабуем рабіць лепш.

**— Якой перадачай Вы ганарыцеся як кіраўнік, як творчы чалавек?**

— Лепшыя нашы перадачы яшчэ наперадзе — настройцеся на хвалі Радыё Свабода!

**Пытанні задавала Марыя ЭЙСМАНТ.**

ПУЛЬС

## На шчаслівым раздарожжы

Надзейны падмурак для сваёй кар'еры збудаваў 16-гадовы жыхар Віцебска Аляксей Путаў. Вучань 11 класа гарадской гімназіі №1 з вышэйшай узнагародай вярнуўся дадому з Кішынёва, дзе праходзіла 38-я Міжнародная Мендзялееўская алімпіяда па хіміі. У ёй бралі ўдзел каля ста вучняў з розных краін, але ніводзін з іх не здолеў перамагчы віцебскага вундэркінда, якому і быў уручаны залаты медаль.

Алімпіяда ў сталіцы Малдовы была для Аляксея чацвёртым выпрабаваннем такога высокага рангу. Двойчы хлопец атрымліваў срэбны медаль і столькі ж разоў — залаты.

Сёлета юнак яшчэ толькі завяршае сярэднюю адукацыю, але ўжо атрымаў некалькі цікавых прапаноў наконт працягу вучобы ў ВНУ Беларусі, Вялікабрытаніі і ЗША.

**Сяргей БУТКЕВІЧ.**

## Запазычанасць — 64 мільярды рублёў

Запазычанасць калгасаў і саўгасаў Гомельскай вобласці за адпушчаную электраэнергію складае 64 мільярды рублёў, паведаміў генеральны дырэктар РУП "Гомельэнерга" Алег Рыхтэр 20 мая на пасяджэнні Гомельскага аблвыканкама.

**Алена ПАСКАННАЯ.**

## Пад канвоем у... Траццякоўскую галерэю

*18 мая ад будынка Нацыянальнага мастацкага музея ад'ехалі дзве спецыяльныя машыны ў суправаджэнні міліцэйскага эскорту. У пункт прызначэння — Маскву — яны прыбылі па графіку. Там, у Белакаменнай, адбудзецца выстава твораў Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі.*

Выстава пройдзе ў Траццякоўскай галерэі.

*"Такога,* — гаворыць дырэктар Нацыянальнага мастацкага музея Уладзімір Пракапцоў, — *мы не мелі за ўсе 65 год існавання музея"*. Шэдэўры Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі будуць чакаць наведвальнікаў з 25 мая на працягу 2 месяцаў.

У Траццякоўскай галерэі падчас выставы будуць распаўсюджвацца сувеніры, пуцевадзіцель музея і іншая друкаваная прадукцыя, сярод якой і каталог "Шедевры Национального художественного музея Республики Беларусь", у якім пералічаны ўсе творы аўтараў. Дарэчы, дзякуючы падтрымцы маскоўскага бюро ЮНЕСКА, якая выдаткавала грошы, музей зрабіў свой CD-ROM — своеасаблівую экскурсію па Нацыянальным мастацкім музеі. Пакуль што на ім прадстаўлена пастаянная экспазіцыя. Гэты дыск таксама будзе прадавацца ў Траццякоўцы і, канешне ж, у Мінску. Каштаваць ён будзе, напэўна, долараў пяць.

**Наталля ГУСЕВА.**

# РЕКОМЕНДАЦИИ

## участников «круглого стола» «Резолюции КПЧ ООН и ПАСЕ о правах человека в Беларуси — новые задачи и возможности»

*(Окончание. Начало на 1-й стр.)*

* исключить административное вмешательство в избирательный процесс;

* способствовать осуществлению диалога с гражданским обществом на местах по социальным, экономическим, экологическим проблемам и избирательному процессу;

* обеспечить доступность информации о деятельности местных государственных органов и чиновников;

* пересмотреть установленные места для проведения массовых мероприятий с учетом мнений политических партий, профессиональных союзов и общественных объединений;

* создать условия для учреждения новых и развития имеющихся местных негосударственных СМИ.

**5.Международному сообществу —**

* не допустить изоляции Беларуси;

* выработать единую политику в отношении Беларуси;

* разработать программы, целью которых будет информирование населения Беларуси о возможностях международного сотрудничества, формирование уважения прав человека;

* воздержаться от сотрудничества с бизнес-структурами, поддерживающими политический режим, пренебрегающий правами человека;

* сотрудничать с правительством и с гражданским обществом в реализации рекомендаций, указанных в резолюциях Комиссии ООН по правам человека и Парламентской ассамблеи Совета Европы, в укреплении и популяризации прав человека.

**6.Со стороны гражданского общества Беларуси —**

* инициировать диалог с местными властями по вопросам прав человека, проблемам избирательного процесса, местным социальным и экономическим проблемам;

* содействовать правительству и международному сообществу в выполнении рекомендаций в отношении Беларуси, поддерживая общественную дискуссию по данным вопросам; исходя из возможностей организаций внести заинтересованным ведомствам свои предложения;

* активно использовать международные инструменты защиты прав человека, в частности, процедуры ООН;

* инициировать процедуры универсальной уголовной юрисдикции для расследования случаев насильственных исчезновений и привлечения виновных к ответственности;

* оказать максимальное содействие деятельности Специальных докладчиков ООН, организовать и провести широкий и тематические мониторинги соблюдения прав человека;

* организовать систему защиты жертв нарушений прав человека и их семей.

В ЗЕРКАЛЕ СОЦИОЛОГИИ

*Как уже сообщалось, НИСЭПИ провел очередной национальный опрос общественного мнения (методом face-to-face interview опрошено 1480 человек в возрасте 18 лет и старше, предельная ошибка репрезентативности не превышала 0.03). Предлагаем читателям "Народной воли" некоторые наиболее интересные результаты. НИСЭПИ не несет ответственности за интерпретацию своих материалов.*

# Родом из ВКЛ

Согласно политической философии А.Лукашенко, Беларусь, белорусское государство, началось в 1919 году с создания БССР. Это выражается во всей политике главы государства, пафос которой — возвращение в "золотой век" БССР. Это — возвращение не просто к предыдущему, лучшему с точки зрения А.Лукашенко периоду белорусской истории, это возвращение именно к истокам, в которых видят "золотой век" все мифологии. Эта политика с необходимостью включает в себя и жесткую борьбу с иными, конкурирующими версиями национального мифа — начиная с референдума 1995 года об отмене прежней символики и замене ее на советскую и кончая запрещением и последующим разгоном 25 марта 2004 года митинга, посвященного празднованию 86-й годовщины провозглашения БНР.

С другой стороны, доктрина, согласно которой истоки белорусской государственности — Великое княжество Литовское, Русское и Жемойтское и Белорусская Народная Республика, является частью "символа веры" национально-ориентированной оппозиции. А поскольку популярность этой оппозиции неизмеримо меньшая, чем главы государства, то, казалось бы, и воззрения белорусов на историческое изначалие их державы должно склоняться скорее к версии А.Лукашенко. В пользу этого свидетельствуют и некоторые феномены массового сознания, например, те же результаты референдума по символике.

В 1996 г. в нашем опросе наибольшее число респондентов идеальным политиком прошлого назвали Петра Машерова, а князь Витовт, Лев Сапега и Кастусь Калиновский замыкали список симпатий. Тем более неожиданными выглядят данные последнего опроса (табл. 1).

**Таблица 1.**
**Распределение ответов на вопрос «Какая держава, по Вашему мнению, была первымв истории белорусским государством?»**

| Вариант ответа | % |
|---|---|
| *Великое княжество Литовское (XIII-XVIII вв.)* | *34,6* |
| *Белорусская Народная Республика (1918 г.)* | *15,1* |
| *Белорусская Советская Социалистическая Республика (1919 – 1991 гг.)* | *17,0* |
| *Республика Беларусь (с 1991 г. – по настоящее время)* | *18,2* |
| *ЗО/НО* | *15,1* |

Как видим, относительное, но весьма внушительное (более трети) большинство относит начало белорусской государственности к ВКЛ. Этот результат выглядит тем более удивительно, что официальные правительственные СМИ такую версию национальной истории если в последнее время не сильно отрицают, то уж во всяком случае не сильно и пропагандируют. Школьные учебники также не очень на такой исторической трактовке настаивают, памятников тем же Витовту и Сапеге в стране не наблюдается. И тем не менее такой результат.

Стоит подчеркнуть, что вопрос задавался не о том, когда вообще появились белорусы, а именно об их государственности. Можно, конечно, предложить объяснение, несколько снижающее это чудо национальной памяти. Отвечая на вопрос анкеты, некоторые респонденты рассуждали, так сказать, по аналогии: "Русские, литовцы, поляки, немцы, французы — все ведут свою историю из глубины веков. А мы чем хуже? Что там подревнее? ВКЛ. Значит, ВКЛ. И срок существования подходящий — 5 веков, не какие-то теперешние 13 лет".

Возможно, именно так многие респонденты, отвечая на этот вопрос, и рассуждали. Но даже если это и так, то в любом случае это свидетельствует о желании легитимизировать, обосновать для самих себя белорусскую государственность. При этом низкие оценки, даваемые в 1996 года героям ВКЛ, и нынешний отсчет белорусской государственности от Княжества, вообще говоря, не противоречат друг другу. За 8 лет оценки Сапеги и Витовта могли и измениться, но дело даже не в этом. О вождях того времени белорусы в массе своей сейчас знают не намного больше, чем в 1996 году, да и знать больше, возможно, и не стремятся, но держава, государство — вещь куда более серьезная, тут все должно быть, как у людей.

Другая по значимости группа "исторического видения" — контрастная к первой. 18.2% опрошенных ведут отсчет белорусской государственности не с БССР даже, а с 1991 года, то есть фактически — с самих себя. Можно предположить, что эта группа "прагматиков" состоит, в свою очередь, из двух подгрупп: одна — это те, кто относится к белорусской государственности вообще весьма скептически, считая ее едва ли не историческим недоразумением (БССР для них — всего лишь провинция СССР), и другая — тех, кто не видит ничего зазорного в том, что белорусы создали свое государство позже многих, буквально вчера. Так сказать, все когда-то начинали, теперь начинаем мы и именно поэтому мы не хуже других.

И, наконец, только третья по численности группа состоит из тех, кто разделяет воззрения А. Лукашенко на истоки белорусской государственности. Эта группа не только вдвое меньше тех, кто ведет отсчет белорусской государственности от ВКЛ — она существенно (тоже примерно вдвое) меньше, чем общее количество приверженцев главы государства.

Сравнительную немногочисленность тех, для кого первая белорусская держава — БНР, можно отчасти объяснить агрессивной, сохранившей еще советские традиции дискредитацией республики, просуществовавшей в 1918 году несколько месяцев. Ярлыки "антисоветчиков", "буржуазных националистов", "немецких наймитов", навешанные на деятелей БНР, возможно, отпугивают многих, в любом случае выбор в пользу БНР слишком тесно связан со злободневной политической борьбой. Князей и канцлеров ВКЛ в наймитстве вроде никто не обвинял, а то, что были они феодалы, так тогда всюду такие были. И тут белорусы не хуже других. Тем не менее стоит отметить, что "выбравших" БНР (15.1%) в несколько раз больше, чем сторонников обоих БНФов.

Конечно, сравнивая с соседними странами с устойчивой государственной традицией, белорусское историческое сознание трудно назвать консолидированным — из табл. 1 следует, что только около 50% опрошенных выводят белорусскую государственность из досоветской традиции. Однако это огромная цифра, если учесть весьма неблагоприятные условия формирования исторического сознания белорусов — оно растет не как цветы на ухоженной клумбе, а как трава на пустыре (а часто и сквозь асфальт). Но именно в этих условиях особенно наглядно демонстрируется сила и естественность процесса.

Этому, кстати, нисколько не противоречит сравнительно низкая популярность национально-ориентированной оппозиции: общество, как придирчивый покупатель, берет, не особенно глядя на физиономии "продавцов", те идеологические "продукты", которые ему подходят. Что же до "советско-белорусского мифа", то дело даже не в его недостоверности (достоверность идеологий — вообще большая проблема), а в том, что товарец-то — "второй свежести".

**Независимый институт социально-экономических и политических исследований.**

# Беларусь была, ёсць і будзе з Быкавым

20 мая ў Доме літаратара Саюз беларускіх пісьменнікаў і ПЕН-цэнтр наладзілі прэзентацыю выдання з серыі "Бібліятэка Свабоды. XXI стагоддзе", прысвечаную творчасці Васіля Уладзіміравіча Быкава. Кніга мае назву "Быкаў на Свабодзе". Гэта зборнік быкаўскай радыёпубліцыстыкі, дапоўнены каментарыямі і рэпартажамі карэспандэнтаў Свабоды, у якіх раскрываюцца стасункі пісьменніка з грамадствам і ўладаю. Калі-небудзь маладыя журналісты будуць вывучаць ягоную радыёпубліцыстыку як класіку жанра, але пакуль што яна для беларускай нацыі як франтавыя рэпартажы, як хроніка барацьбы за Незалежнасць.

На пачатку кнігі эпіграф: **"Надвячоркам кожнага дня я ўключаю прымач і шукаю Свабоду. Тое сталася звычаем і патрэбаю душы".** Словы Быкава. Журналісты Беларускай службы Свабоды ганарацца гэтай адзнакай сваёй працы. У кароткай прадмове, напісанай дырэктарам Беларускай службы Радыё Свабода А.Лукашуком, гаворыцца: *"Мы рабілі праграму, ведаючы, што яе будзе слухаць Быкаў. Мы так і будзем рабіць надалей, Васіль Уладзіміравіч"*.

Сярод выступленняў на вечарыне запомніліся словы Сяргея Законнікава: *"Калі нашы сябры з Польшчы, Летувы, іншых краін пытаюцца: "Як цяпер Беларусі без Быкава?" — я адказваю: "Беларусь была, ёсць і будзе з Быкавым"*. Поўная зала Дома літаратара ( яна нячаста бывае поўнай) сустрэла гэтыя словы апладысментамі.

Можна сказаць, што на прэзентацыі прысутнічала інтэлектуальная эліта краіны. У зале было нямала тых, хто асабіста ведаў Васіля Уладзіміравіча. Гэта стварала эмацыянальную атмасферу, падобную на тую, што бывае ў храме. У бажніцы пратэстантаў, дзе абавязковая абраднасць зведзена да мінімуму, дзе людзі збіраюцца не дзеля рытуалу, а дзеля сумоўя.

Музычным фонам вечарыны былі творы, якія ў свой час суправаджалі ў эфіры Свабоды быкаўскія тэксты. На заканчэнне на сцэну падняліся журналісты Беларускай рэдакцыі Свабоды, якія працавалі з Быкавым у эфіры і намаганнямі якіх радыётэксты Васіля Уладзіміравіча сталі даступнымі і чытачам.

У вечарыне "Быкаў на Свабодзе" прынялі ўдзел амбасадары ЗША, Літвы, прадстаўнікі іншых краін. Дарэчы, і Джордж Крол, і Ёнас Паслаускас выступілі на беларускай мове. Амбасадар ЗША адзначыў, што 50 год таму амерыканскі народ падтрымаў беларусаў праз фінансаванне Радыё Свабода ў яго імкненні да дэмакратычнага грамадства. Як сказаў амбасадар Джордж Крол, геній Васіля Быкава належыць усім нацыям свету, бо яго творчасць служыць агульначалавечым ідэалам. Амерыканцы хочуць быць разам з вамі, а не супраць вас, заявіў Дж.Крол.

Дзіўна, але было ўражанне, што Быкаў недзе тут, у зале. Разам з усімі. На хвалі Свабоды.

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ.**

## Цячэ вада... Але якая?

Былі часы, калі мінчане хваліліся якасцю вады ў сваіх кватэрах. Цяпер пра гэта могуць сказаць жыхары далёка не ўсіх раёнаў. Ёсць, як кажуць, праблема. А таму гарвыканкам прыняў рашэнне: 8 жніўня павінны быць падрыхтаваны рэкамендацыі па паляпшэнні якасці вадаправоднай вады ў Мінску. Іх распрацоўкай займаецца спецыяльна створаная ў Мінгарвыканкаме рабочая група, у склад якой увайшлі прадстаўнікі зацікаўленых устаноў і навукоўцы.

Сёння ваду з падземных крыніц атрымліваюць жыхары Цэнтральнага, Савецкага, Ленінскага, Заводскага і Першамайскага раёнаў, а таксама 20 працэнтаў насельніцтва Фрунзенскага і Маскоўскага раёнаў. Астатнія мінчане карыстаюцца вадой з паверхневых крыніц, якая праходзіць старанную апрацоўку і ачыстку.

Адзін з варыянтаў паляпшэння якасці вады — падвядзенне да ўсіх жыхароў Мінска вады з артэзіянскіх крыніц, аднак гэта патрабуе вялікіх капітальных укладанняў, зазначаюць у "Мінскводаканале".

**Лавінія АРЭШКА.**

СПЕЦИАЛЬНЫЙ РЕПОРТАЖ

# Будет ли сделан специальный переход из Дома правительства в казино подземного города?

*Обыватели по этому поводу с удовольствием "перетирают" слухи, генеральный директор УП "Дирекция по реконструкции площади Независимости" **Павел УЛАШЕВИЧ** просто улыбается.*

— Да какой переход? — Павел Александрович только руками разводит. — Есть то, что есть. А это строительство паркинга, который мы должны сдать к декабрю этого года, строительство торгово-общественного центра — его ввод запланирован на декабрь 2005 года...

Паркинг, надо сказать, будет неслабый — примерно на 500 машин. Двойной выезд для грузовых и легковых машин, парковка возле центра, где можно будет "затариться" по полной программе всем, чего душа пожелает. Чем не европейский сервис?

— Жизнь заставила, — говорит Павел Улашевич. — Мы и так отстали, потому что и в Киеве, и в Москве, не говоря уже о дальнем зарубежье, такие "подземные города" давно существуют.

— А какие работы сейчас идут? — интересуюсь у моего собеседника.

— Укладываем гидроизоляцию паркинга, который будет четырехъярусным, работаем над центром. Торгово-общественный центр, кстати, "забронирован" за Управлением потребительского рынка Мингорисполкома, а паркинг — за Управлением гаражей и автостоянок.

Эти управления, собственно, и будут распоряжаться сданной строителями "жилплощадью". Однозначно, что под землей будет сеть мини-кафе, ресторан, мини-кинотеатры на 80—100 мест, боулинг-клуб. Говорят, что и казино... Депутатам вообще "манна небесная" сыплется, потому как рядом с залом заседаний и гостиницей "Минск", где многие из них проживают, окажутся не только супермаркет, но и иные прелести сладкой жизни.

— Вот проблемка была, — показывает мне Павел Александрович на котлован, ближе к Педуниверситету. — Представьте, выкопали 15-метровую яму, а там сруб деревянного колодца. Пришлось копать еще пять с половиной метров вглубь, чтобы убрать его. Это же какой глубины должен быть колодец!

— А золото не находили?

— Если только песок перемыть, — смеется мой сопровождающий. — Находили в основном ломаные немецкие каски, бутылки, банки... Здесь же раньше находилась жилая застройка, поэтому что еще могло остаться после военных бомбежек и пожаров? Возле Педуниверситета, кстати, откопали целый этаж кирпичного дома — с окнами, дверями. Возле гостиницы встречались деревянные домики, сараи.

А еще строителям пришло предписание поосторожнее обходиться с историко-культурной ценностью 2-й категории под названием "Люк". Который, оказывается, был установлен 70 лет назад, одновременно с закладкой здания Дома правительства. Таких люков, как считают наши культуроведы, в Минске раз-два и обчелся.

...Стройка кипит. Работают в прямом смысле и днем, и ночью. Причем не воруют. "Если только с краном можно что-нибудь стянуть", — снова улыбается Павел Александрович.

А чего грустить? Ведь все идет по плану!

**Алесь СИВЫЙ.**

СКВОЗЬ ГОДЫ...

# Для поляков эта дата является священной, в Беларуси она практически забыта

"Народная воля" рассказывала о предстоящей премьере фильма "Забытые герои" — о судьбах участников битвы при Монте-Кассино в Италии (18 мая 1944 года), в которой плечом к плечу с американскими и британскими войсками сражались польские и белорусские солдаты II Корпуса генерала Владислава Андерса. Мероприятие состоялось на днях в офисе Общества дружбы и культурных связей с зарубежными странами. Кинорежиссер Владимир Бокун представил ленту о трагической судьбе героев Монте-Кассино, которые после возвращения на родную землю, в Западную Белоруссию, были сосланы вместе с семьями в Сибирь и никогда не получили заслуженного признания в своей стране. Многие из них, боясь репрессий, предпочли остаться в эмиграции на Западе, главным образом в Великобритании.

Возле Монте-Кассино погибло 1000 солдат II Корпуса, раненых было около 3 тысяч и около 350 пропавших без вести. Среди погибших — 240 белорусов, 10 украинцев.

Для поляков дата 18 мая является священной, она считается одним из самых больших исторических триумфов польского и белорусского оружия, благодаря которому была преодолена "линия Густава" в Италии и открыт путь союзникам на Рим.

В этом году в памятном торжественном мероприятии на польском военном кладбище при Монте-Кассино приняли участие две тысячи человек, в том числе президент Республики Польша Александр Квасьневски и несколько сот ветеранов — граждан Великобритании, Новой Зеландии, Германии. Польские и немецкие ветераны повторили символический акт примирения. На частной аудиенции в Ватикане для президента Квасьневского Папа Ян Павел II подчеркнул, что "участники битвы осознавали, что любой ценой необходимо противостоять не только физическому насилию над личностью и целыми народами, но также попыткам уничтожить их традиции, культуру и духовное самосознание". И добавил, что "кровь наших братьев, пролитая у Монте-Кассино, сегодня является сильным аргументом в дискуссии о духовном образе Европы". Президент Квасьневски сказал, что "сегодняшняя Европа многим обязана участникам битвы при Монте-Кассино".

Во время показа ленты Владимира Бокуна в Доме дружбы по неизвестным причинам не присутствовали представители посольств бывших европейских союзников в битве, а также США и России. Из стран ЕС присутствовал только представитель Словакии. Польские дипломаты в Минске очень разочарованы этим "общим забвением" по отношению к бывшим союзникам.

**Степан КУХАЛЬСКИЙ.**

УВАГА!

## У сувязі з рамонтнымі работамі...

У Мінску з 10 гадзін раніцы 22 мая да 5 раніцы 23 мая ў сувязі з правядзеннем рамонтна-аварыйных работ па вуліцы Сурганава — на ўчастку ад вуліцы Платонава да праспекта Ф.Скарыны — змяняюцца трасы некалькіх тралейбусных маршрутаў.

Як паведамілі БелаПАН ва ўпраўленні транспарту і сувязі Мінскага гарвыканкама, у прыватнасці, мяняецца рух маршруту № 33 з боку станцыі "Дражня" да Запарожскай станцыі і з боку станцыі "Кунцаўшчына" да вуліцы Талбухіна; № 34 — з боку "Ангарскай-3" да Запарожскай плошчы і ад "Зялёнага Луга — 7" да вуліцы Талбухіна; № 35 — з боку станцыі "Серабранка" да Запарожскай плошчы.

Для кампенсацыі знятага тралейбуснага руху арганізоўваецца часовы аўтобусны маршрут № 131 "Кульман — плошча Запарожская", які будзе следаваць па вуліцах Карастаянавай, Арлоўская, Сурганава, Акадэмічная, Сталетава, а назад — па вуліцах Сталетава, Акадэмічная, Сурганава, Багдановіча, Кульман, паведамілі ва ўпраўленні.

**Лавінія АРЭШКА.**

